


**№ 1 (7)**
**Студзень**
**1944**

Няхай ня думаюць нашыя ворагі, што яны сваім дзікім тэрорам запужаюць Беларускі народ і ён адмовіцца ад змаганьня за свае найдаражэйшыя ідэалы!

Не! Гэта можа давесьці толькі да узрыву народнага гневу, які, як ведама, ані літасьці, ані сэнтымэнтаў ня мае.

Праф. Радаслаў АСТРОЎСКІ
Прэзыдэнт Бел. Цэнтр. Рады

*(З прамовы на абвешчаньні Беларускае Цэнтральнае Рады 21. 12. 1943)*

ЧАСАПІС ДЛЯ КІРАЎНІКОЎ МОЛАДЗІ

ВЫДАВЕЦ: М. ГАНЬКО

# ЗАГАД № 1

## ШЭФА КІРАЎНІЧАГА ШТАБУ СБМ

Гор. Менск 1 студзеня 1944 г.

Кіраўнік Аддзелу Моладзі Гэнэральнага Камісара Беларусі обэрбанфюрэр ШУЛЬЦ перадаў мне і у маёй асобе усёй беларускай моладзі свае навагоднія пажаданьні і пераслаў наступны ліст:

«Менск, 31 сьнежня 1943 г.

Дарагі Шэф-праваднік!

Сяньня у хвіліну зьмены году прашу Вас ласкава прыняць мае найшчырэйшыя прывітаньні для Вашае працы і далучаю да іх мае найлепшыя пажаданьні Вашага асабістага шчасьця. 1943 год азначае для Беларускага народу пачатак новай гістарычнай эпохі. Моладзь Беларусі стала пад Вашым мэтасьведамым кіраўніцтвам на бой супроць ворагаў Эўропы і гэтым самым узяла у рукі лёс свайго народу. Праз гэта яна сталася штандаровым шчасьлівае будучыні. Няхай-жа 1944 год суправаджае найлепшымі удачамі Вашую працу сярод беларускае моладзі, а гэтым самым для Вашага народу!

Нямецкая моладзь будзе і надалей, у новым годзе, як гэта было ад самага пачатку нашае супольнае працы, выяўляць сваё сяброўства і даваць дапамогу, якую яна давала дагэтуль.

З гэтай думкай прашу Вас яшчэ раз прыняць мае найлепшыя пажаданьні і перадаць мае прывітаньні Вашым супрацоўнікам ды усёй беларускай моладзі. Я спадзяюся і жадаю, каб далей паглыблялася сяброўства і дачыненьні паміж Вамі і мной асабіста ды паміж нямецкай і беларускай моладзьдзю.

1944 год прынясе Нямеччыне, а гэтым самым і Эўропе, вырашэньне у гэтым гігантычным змаганьні. Што гэтае вырашэньне прынясе Нямеччыне перамогу, гэта бясспрэчна, бо нашая вера непахісная, а нашая вернасьць і любасьць да Адольфа Гітлера — бязьмежная.

Няхай жыве Адольф Гітлер! Няхай жыве Вяліканямеччына і Новая Эўропа! Няхай жыве Беларусь! Жыве перамога!

Ваш Вільлі ШУЛЬЦ
обэрбанфюрэр».

Глыбока пераконаны у прыязьні нямецкіх нацыянал-сацыялістычных кіраўнікоў да Беларускага народу і шчыра удзячны обэрбанфюрэру Шульцу за ягоныя сардэчныя словы навагодняга прывітаньня для мяне асабіста, для маіх супрацоўнікаў і для усяе беларускае моладзі, я перадаю ягоны ліст разам са сваімі найлепшымі пажаданьнямі да ведама усіх кіраўнікоў і сяброў Саюзу Беларускае Моладзі.

Я глыбока веру, што прыязьнь нямецкае і беларускае моладзі будзе цьвісьці і надалей, а зарукай гэтага зьяўляецца супольная праца для перамогі Новай Эўропы над усімі ейнымі ворагамі і для пабудовы новага парадку. Няхай-жа 1944 год будзе годам нашае супольнае перамогі!

Няхай жыве Правадыр Новай Эўропы Адольф Гітлер!
Жыве Беларусь!

М. ГАНЬКО
шэф-праваднік

# ЗАГАД № 4

## ШЭФА КІРАЎНІЧАГА ШТАБУ СБМ

Гор. Менск 15 студзеня 1944 г.

У вадказ на маю калядную тэлеграму з навагоднімі пажаданьнямі кіраўнік Аддзелу Моладзі Міністэрства Усходу гаўптбанфюрэр Нікэль прыслаў мне і усёй беларускай моладзі найлепшыя пажаданьні і запэўніў, што дасюлешняя прыязьнь паміж нямецкай моладзяй і намі будзе штораз паглыбляцца, а дапамога і апека, якую мы маем з боку Моладзі Гітлера, не аслабнець і у 1944 годзе.

М. ГАНЬКО
шэф-праваднік

*Міхал Ґанько*
шэф-праваднік

# ЧАМУ ТОЛЬКІ ГЭТЫ ШЛЯХ?

Той час, які мы цяпер перажываем, гэтак перапоўнены падзеямі, што нам не застаецца часу, каб застанавіцца над іхным сэнсам і аналізаваць іх глыбей. Праўда, каб магчы гэткія вялікія падзеі аналізаваць, на гэта трэба мець пэўны дыстанс ад іх: толькі тады захоўваецца правільная гістарычная пэрспэктыва.

Але мы, сучасныя, ня можам чакаць, покуль прыйдзе гэткі спрыяльны для гістарычных разважаньняў і расцэнкі час. Мы мусім сяньня заняць тое ці іншае становішча у ходзе гістарычнага разьвіцьця. Чакаць нельга, бо накш гісторыя пройдзе над нашымі галовамі. Мы, беларусы, павінны нарэшце дачапіцца да гістарычнае калясьніцы, бо накш яна праз нас праедзе. Мы павінны зрушыцца з таго месца, на якім сталі тры вякі таму, павінны зрушыцца самі, а ня быць папіхачамі другіх.

Пэўна-ж, гістарычная часіна, у якую мы распачынаем, як нацыя, ставіць першыя крокі, — вельмі цяжкая. Ня толькі гэткія, як мы народы, але і дужыя, старыя дзяржавы моцна адчуваюць на сабе цяжар вайны, якая нездарма называецца другой сьветнай вайною: на гэта яна мае мо' большае права, чымся першая вайна 1914—1918 г. г. Сьветная яна ня толькі таму, што ужытыя у ёй гігантычныя, нябывалыя дагэтуль людзкія і матар'яльныя рэзэрвы, але галоўна таму, што яна мае эпохава-вырашальнае гістарычнае значаньне: якой будзе у будучыні Эўропа? ці яна будзе апанаваная жыда-бальшавізмам ці будзе вольная, скансалідаваная і захавае арыйскае аблічча і сваю старую 2000-гадовую культуру? У гэткую часіну вельмі цяжка, але і цікава жыць. Некалі нашчадкі будуць зайздросьціць нам, што якраз нас лёс выбраў на сьветкаў вялікіх дзён.

Толькі у гэткі вялікі час і можа зьмяняцца доля народу. У спакойны час міру ніхто аб гэтым ня думае, каб перакройваць дзяржаўныя межы, каб уступіць некаму кавалак свайго жыцьцёвага прастору. І Беларускі народ, які дагэтуль ня меў волі і долі і якога страшэнна пакрыўдзілі Вэрсальскім і Рыскім трактатам, толькі сяньня можа атрымаць свае правы, здабыць сабе месца між іншых народаў і свабоду свайго нацыянальнага разьвіцьця.

Выходзячы на шырокі гістарычны шлях, мы павінны выбраць сабе, з кім нам па дарозе, хто наш хаўрусьнік, з кім мы можам і павінны сябравацца. Гэта не таму, каб мы ня верылі у сваю собскую вартасьць, як народу, але таму, што аднае нашае сілы замала, каб даць адпор усім нашым ворагам і злыдням.

Нашыя ворагі — гэта жыдоўскі бальшавізм і імпэрыялістычны шавінізм нашых ворагаў. Што з імі у нас няма нічога супольнага і што яны ня хочуць і ня могуць быць нашымі саюзьнікамі, гэтага ня трэба хіба нікому доўга даводзіць. Яны ніколі ня выказалі жаданьня пайсьці насустрач нашым нацыянальным імкненьням, а ігнаравалі ды перасьледвалі нас, як народ, рыхтуючы нам нацыянальную сьмерць.

Абапірацца на хаўрусе з імі — гэта азначала-б нашую згубу. Паколькі мы заўсёды выяўляем г. зв. беларускую мяккацеласьць і незлапомнасьць, дык затое жыды, бальшавікі ды ворагі-шавіністыя не належаць да тыпу людзей мяккасардэчных і прабачлівых. Сяньня, калі для нас зазьзяла нарэшце яркая зорка надзеі на вольную і шчасьлівую будучыню, дык яны пастарому высьмейваюць нас або проста пагражаюць помстай і распраўай, калі... прыйдзе «іхнае панаваньне».

Не, ня гэта зьяўляецца нашым шляхам у будучыню. Ніякі хаўрус, пагадненьне ці фэдэрацыя з нашымі ворагамі і зладумцамі не дадуць нам вольнага разьвіцьця нашага нацыянальнага жыцьця, а толькі згубу, у якой мы самі былі-б вінаватыя. Гэтага лёсу мы для сябе ня хочам!

Беларускі народ хоча быць сябрам эўрапэйскае грамады. Ягоны лёс быў заўсёды цесна зьвязаны з лёсам эўрапэйскага кантынэнту. У захаваньні і падтрыманьні гэтае лучнасьці мы і бачым сваю гістарычную місію. Дык тыя сілы, якія выступаюць супроць Эўропы і супроць нашае місіі, ня могуць быць нашымі хаўрусьнікамі — яны зьяўляюцца нашымі ворагамі.

Эўропа знаходзіцца сяньня у гігантычным змаганьні з двума лютымі ворагамі: жыдабальшавізмам на усходзе і англа-амэрыканскім плютакратызмам на захадзе. У гэтым змаганьні ейныя маладыя сілы здаюць вялікі выпрабавальны экзамен і кансалідуюцца у вадну вялікую ідэйную сям'ю.

Бальшавікі і плютакраты зьвязаліся хаўрусам супроць Эўропы і прыпячатавалі яго яшчэ на канфэрэнцыі трох хаўрусьнікаў у Маскве і Тэгэране.

Мы ніколі ня мелі ілюзіяў што да «паправы» бальшавікоў або што да ангельскіх «гарантыяў» для эўрапэйскіх народаў ды іхнае палітыкі «раўнавагі». Бальшавізм нясе нам канчальную загладу, а Англія згадзілася выдаць усю Эўропу Сталіну — вось аб чым мы добра ведаем і чаго ніколі не павінны забывацца. Маскоўская і Тэгэранская канфэрэнцыі разьвеілі і апошнія ілюзіі у найбольш падатных на чужыя падшэпты з боку.

Але, дзякуй Богу, гарантам лёсу Эўропы зьяўляюцца не кантрагэнты з Масквы, Лёндану і Вашынгтону, а нямецкія жаўнеры Адольфа Гітлера. Яны стаяць на варце эўрапэйскае культуры і цывілізацыі ад чырвонае і жоўтае пошасьці ды ад залатога імпэрыялізму. Эўропу вядзе да перамогі Правадыр Вялікаянямеччыны.

Мы, беларусы, маем у Нямеччыне натуральнага і адзінага магчымага хаўрусьніка. У нас супольныя ворагі, таму мы павінны весьці супольнае змаганьне. Наш лёс у вапошнім чверцьвеччы быў аднолькавы. Вэрсальскі

трактат з усімі сваімі ганебнымі вынікамі зрабіў аднолькавую крыўду, як нямецкаму, так і беларускаму народу. Толькі агульная перабудова Эўропы магла прынесьці нам палепшаньне і направіць нашыя крыўды. Гэтая вайна як нам, так і нямецкаму народу прынясе або поўны трыумф над усімі ворагамі і вялікае слаўнае нацыянальнае заўтра, або вечную няволю ды менш ці больш паволную нацыянальную сьмерць. Ангельцы думаюць ужо аб тым, як яны будуць «абясшкоджваць» немцаў пасьля гэтае вайны, а гэтак сама думаюць бальшавікі і жыды у дачыненьні да беларусаў, асабліва пасьля таго, як мы пабачылі «з другога боку» і шмат чаго пабачылі.

Дык нас лучыць супольны лёс, супольная крыўда, супольныя ворагі, супольнае імкненьне і воля да лепшае будучыні, на якую мы маем поўнае права.

Але нас лучыць нешта яшчэ большае. Мы, беларусы, не зьяўляемся народам, далёкім ад немцаў паводля свае расавае прыналежнасьці і народнае культуры. Можна сьмела цьвярдзіць, што нашая лучнасьць з арыйскім Захадам была і ёсьць куды цясьнейшая, чымся з расейска-азіяцкім Усходам. Таму няма чаго і дзівіцца, што у нас выяўляецца заходняэўрапэйская арыентацыя.

Усе аргумэнты, якія мы падаём на падмацаваньне тэзы беларуска-нямецкага супрацоўніцтва, для беларускіх нацыяналістых амаль непатрэбныя, бо гэтая тэза для нас сама сабой зразумелая. А бальшавікоў, якія жанглююць фразамі аб бальшавіцкай «свабодзе» і «вызваленьні» нас з-пад «нямецкай акупацыі» і «рабства», ніхто не перакрычыць і не пераканае.

Нямеччына пакідае за сабой правадырства у Новай Эўропе і мае поўнае права адыгрываць галоўную ролю у новаўпарадкаваньні Эўропы пасьля заканчэньня вайны: гэтае права яна акупіла цаной крыві сваіх жаўнераў і цаной поту сваіх сялянаў і работнікаў, якія працавалі на патрэбы фронту. Але Нямеччына зусім ня мае намеру накідаць Эўропе свайго ярма, заганяць некага у няволю ці прадаваць у рабства. Нямецкі дух зьяўляецца гэніем творчасьці, працы і парадку, а ня дэманам разбурэньня, прыгону і зьдзеку. Нікому лепш, як Нямеччыне і ейнаму Правадыру Адольфу Гітлеру, нельга даверыць лёс нашага кантынэнту: гэтае кіраўніцтва прынясе пару кансалідацыі і стабілізацыі Эўропы, дзе месца закулісных інтрыгаў займе сумленная праца і высілак, паводля якіх толькі і будзе ацэньвацца вартасьць народаў ды давацца ім належнае месца між іншых народаў кантынэнту.

Мы, беларусы, прыкладаем усе высілкі, каб унесьці сваю частку у справу пабудовы Новай Эўропы і каб нашай працай і змаганьнем здабыць сабе месца вольнага і раўнапраўнага народу. Нашае права як нацыі прызнанае Нямеччынай, а нямецкае нацыянал-сацыялістычнае кіраўніцтва дапамагае у вадбудове нашага нацыянальнага жыцьця усімі сродкамі. У гэтым мы бачым шчырую волю Нямеччыны дапамагчы нам стаць на свае собскія ногі.

Той крок, які мы цяпер робім, — крок да афармленьня у сьведамую нацыю, — сур'ёзны і цяжкі, тым больш, што ён выпаў на сяньняшні цяжкі час. Але колькі-б ахвяраў гэта нас не каштавала, мы гатовыя іх прынесьці, абы толькі дасягнуць свае мэты.

У гэтым вялікім змаганьні на сьмерць і жыцьцё усяго эўрапэйскага кантынэнту мы, беларусы, ня маем чаго страціць, бо дагэтуль у нас ня было народнае волі. Дык мы можам яе толькі знайсьці. Палохаць нас няма чым.

У вялікую гадзіну перад эпохавым вырашэньнем эўрапэйскага лёсу Беларускі народ знае свой шлях і будзе яго цьвёрда трымацца, маючы глыбокае пераконаньне, што гэта ягоны адзіны шлях у сьветлую і вялікую нацыянальную будучыню.



**Моладзь нямецкіх вышэйшых школаў служыць у супроцьлётніцкай абароне.**

# ЗАГАД № 7

## ШЭФА КІРАЎНІЧАГА ШТАБУ СБМ

Гор. Менск 15 студзеня 1944 г.

Сп. Гэнэральны Камісар Беларусі абвесьціў 21 сьнежня 1943 г., што Беларуская Рада Даверу рэканстытуяваная у Беларускую Цэнтральную Раду на чале з прэзыдэнтам. Беларуская Цэнтральная Рада зьяўляецца прызнаным прадстаўніцтвам Беларускага народу.

За прэзыдэнта Беларускае Цэнтральнае Рады вызначаны праф. Радаслаў Астроўскі, які гэткім чынам зьяўляецца найвышэйшым прадстаўніком Беларускага народу.

Прэзыдэнт Беларускае Цэнтральнае Рады зьяўляецца найвышэйшым начальнікам Саюзу Беларускае Моладзі з беларускага боку.

Дзеля аддаваньня яму пашаны загадваю наступнае:

1. Калі прэзыдэнт Беларускае Цэнтральнае Рады прыбываець ува установу ці адзінку Саюзу Беларускае Моладзі, дык прысутны найвышэйшы кіраўнік СБМ складаець яму рапарт.
2. Пры сустрэчы з прэзыдэнтам усе кіраўнікі і сябры СБМ становяцца фронтам і аддаюць яму пашану.
3. Да прэзыдэнта зьвяртаюцца словамі: «Спадар Прэзыдэнт!»

М. Ганько
шэф-праваднік



Праф. Радаслаў Астроўскі.
Прэзыдэнт Беларускае Цэнтральнае Рады.

*З НАШАЕ МІНУЎШЧЫНЫ*

# АПАВЯДАНЬНІ З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

## І. ЦЯПЕР І ДАЎНЕЙ

Старыя людзі расказваюць, а вучоныя апісваюць, што даўней, гадоў хоць-бы сто таму, людзі жылі шмат інакш, як мы цяпер. А зусім інакш людзі жылі гадоў таму тысячу і дзясяткі тысячаў, калі яны нічога яшчэ ня зналі і ня мелі. Гэткія людзі завуцца дзікімі, першабытнымі. Іхнае жыцьцё да нашага запраўды непадобнае.

Цяпер па гарадох жывуць людзі у прыгожых, высокіх, мураваных дамох. Ходы у ім харошыя, выгодныя, чыстыя. А ёсьць каменіцы, што і па сходах хадзіць ня трэба—сядаеш у машыны (вінда), націскаеш гузік, а машына і вязе цябе на патрэбны табе паверх. У кватэрах высокія, прасторныя, цёплыя і сьветлыя пакоі. Замест газы гарыць электрыка. Там нават печаў ня бывае, бо пад домам ёсьць адна вялікая, супольная печ, якая награвае ваду, а вада трубамі кружыць па усім доме і аграве усе кватэры. У кватэрах людзі маюць нават упраўленыя ванны і зімой могуць у іх купацца, як летам у рэчцы.

І па вёсках у сялян таксама ёсьць прыгожыя домікі, крытыя гонтам, бляхай або чарапіцай, якія маюць вялікія вокны і прасторныя пакоі. Знадворку ашаляваныя і памаляваныя, або атынкаваныя і пабеленыя.

Усюды цяпер спаткаем шырокія, гладкія шосы і нажвіраваныя дарогі, па якіх хутка імкнуцца аўтабусы і аўтамабілі. Па зямлі параскладаныя рэйкі (чыгунка), па якіх ходзяць цягнікі; па рэках вазёрах і марох плаваюць розныя параплавы, а пад аблокамі лётаюць сталёвыя птушкі—самалёты.

Цяперашнія людзі, калі маюць якія справы недзе у іншым горадзе ці нават у іншым краі, дык незаўсёды патрабуюць туды ехаць, бо гэныя свае справы могуць выканаць праз пошту, тэлеграф, тэлефон ці радыё.

А глянем, як стройна цяпер людзі убіраюцца. І гэта ня толькі па гарадох, але таксама і па сёлах. Носяць людзі, як бачым, з добра выробленай скуры абутак, крамны або з добрага самадзелу адзетак.

Для абароны ад ворагаў цяпер людзі маюць надта хітрую зброю: стрэльбы далёканосныя гарматы, танкі, самалёты з бомбамі і шмат чаго іншага.

Маюць сяньня людзі розныя школы, усялякія навуковыя установы, а у земляробсьцьве ня толькі плугі, але і земляробскія машыны. Ды немагчыма усё пералічыць, чым сяньня чалавек карыстаецца. А трэба ведаць, што усё гэта не адразу і ня лёгка зьявілася. Многа на гэта трэба было часу, розуму і працы.

Даўнія людзі жылі зусім інакш. Ня умелі яны будаваць хатаў і жылі па лясох або у пячорах, вырытых у зямлі. Карміліся пладамі і малымі зьвяратамі.

Былі тады таксама і розныя вялікія зьвяры: насарогі, мамуты, гіены, мядзьведзі. Шмат з іх вымірала і сяньня ужо ня існуюць. Але слабы тады быў чалавек і безбаронны перад гэнымі страшнымі зьвярамі. Зброі ён ня меў і бараніўся каменьнем, паленам або проста уцякаў. Зьвер часта дагаяў яго і заядаў.

Лягчэй стала жыць першабытнаму дзікаму чалавеку, калі ён надумаўся зрабіць сабе лук. Тады ён ужо нават паляваў на зьвяратаў. Скурай акрываўся, а мяса еў. Еў сырое. А як навучыўся выкрэсваць агонь, тады мяса пёк на агні.

Пазьней навучыўся рабіць з каменьня сякеру, малаты, нажы, пілы. Навучыўся таксама выраблаць судзьдзё з гліны: місы, жбаны, кубкі.

А як пачалі гэтак разумнець гэныя людзі, дык пакінулі і свае норы, пячоры, ды пачалі будаваць сабе хаты. Будавалі іх часта на вазёрах, на балотах. Заганялі калы, насьцілалі памост, ставілі слупкі, аплятали іх дубцамі, віткамі і аблеплівалі глінай. У гэткіх хатах і выгадней было, і ад зьвяратаў бясьпечна.

Галоўным заняткам першабытных людзей было перадусім паляваньне, рыбалоўства, пастырства. Але на месцы яны не сядзелі, а вандравалі. Калі ім было мала зьвяратаў, рыбы ці пашы—яны ішлі у другое месца. І толькі тады, як навучыліся земляробству, пачалі трымацца аднаго месца. Апрача збожжа сеялі лён. Жанчыны ткалі палатно і шылі адзежу. Голкі рабілі з рыбіх касьцей.

З часам гэныя першабытныя людзі навучыліся яшчэ больш. Яны пачалі выробляць розныя рэчы з медзі і бронзы, а урэшце з жалеза.

І гэтак паступова, праз доўгі, доўгі час, дайшлі людзі да таго, што яны маюць сяньня. З дзікіх, вандроўных людзей сталіся аселымі і дайшлі да розных здабыткаў і да лепшага жыцьця.

Урэшце людзі адны да другіх прывыкалі і зжыліся з сабой. Вытварыліся у іх розныя мовы і паўсталі розныя пляменьні, а пазьней і народы. Яны засноўвалі княствы (гаспадарствы) і рупіліся аб асьвеце, навуцы, поступе.

(Працяг будзе)

**В. Будзіловіч.**



**Фінляндыя, таксама як і другія эўрапэйскія народы, змагаецца супроць бальшавізму. Фінская моладзь дапамагае сваім бацьком і братом на фроньце, дапаможнаю працай у краі.**
**На здымку аддзел фінскіх юнакоў на зборцы.**

*А. Овіч*

# Шляхі разьвіцьця беларускае літаратуры

(Працяг, пачатак гл. у 4—5 нумары)

Аляхновіч малюець у сваіх драмах «Пан Міністар» і «На Антокалі» галоўным чынам дробнае мяшчанства і мяшчанскі інтэлігенцкі пласт. Абодвы сцэнічныя творы ставяцца цяпер у Менскім Гарадзкім Тэатры. З часу васьмі гадоў, якія Аляхновіч правёў у славутым месцы ссылкі на Салоўках, ён напісаў антыбальшавіцкую кнігу «У кіпцюрох ГПУ», перакладзеную на некалькі моваў. Абодвы—Максім Гарэцкі і Францішак Аляхновіч—юбіляры у гэтым годзе. Першаму спаўняецца 50 год, другому 9 сакавіка споўнілася 60 год жыцьця.

«Нашаніўскі» кірунак 20 ст. зьмяняецца цяпер новым маладым рухам. Ягонаю мэтай зьяўляецца узвышэньне беларускае літаратуры на эўрапэйскі узровень. Ягоныя намаганьні гуртуюцца у 1926 годзе у накіраваным у мастацкі бок саюзе пісьменьнікаў «Узвышша». Да гэтага саюзу належыць шэраг таленавітых нацыянальных мастакоў, як: паэты Уладзімер Дубоўка і Язэп Пушча, празаікі Л. Калюга і Кузьма Чорны, сатырыкі А. Мыры і Кандрат Крапіва. Да іх трэба залічаць таксама пісьменьніка раманістага Міхася Зарэцкага.

У заходняй Беларусі, якая належыла да былой Польшчы, у гэтым самым дусе пішуць Уладзімер Жылка, які пазьней прыехаў у Савецкі Саюз і памёр на выгнаньні, Натальля Арсеньнева, а пазьней Максім Танк.

Саюз «Узвышэнства» быў, як і усе нацыяналістычныя рухі, зьліквідаваны бальшавікамі. Шмат з ягоных сяброў загінулі пад бальшавіцкім ярмом. Бальшавізм, а пазьней вайна, расьцярушылі творчыя сілы беларускае літаратуры.

Цяпер з гэтага боку мяжы, якая аддзяляе Новую Эўропу ад Савецкага Саюзу, працуюць толькі два пісьменьнікі найнавейшай эпохі: Францішак Аляхновіч, які цяпер зьяўляецца рэдактарам газэты «Беларускі Голас» у Вільні, і Натальля Арсеньнева у Менску.

У міжчасе таксама і на эміграцыі вырасьлі новыя нацыянальныя сілы беларускае літаратуры, як, прыкладам, Ларыса Геніюш у Празе і паэты Юлі Сяргіевіч і Я. Палонны у Нямеччыне. Таксама навокал «Беларускае Газэты» у Менску гуртуюцца маладыя сілы.

Характарыстычна, што на чале сяньняшняе беларускае паэзіі стаяць жанчыны: Натальля Арсеньнева і Ларыса Геніюш. Творы Натальлі Арсеньневай сабраныя у двух зборніках вершаў: «Пад сінім небам» і «Жоўтая восень», апрача гэтага зборнік новых вершаў, лібрэта да опэры «Лясное возера» і пераклады «Затопленага звону», Гэрарда Гаўптмана, камэдыі «Разьбіты жбан», Гайнрыха Кляйста і опэры «Вольны стралок» ды іншыя. Паўсталі два новыя опэрныя лібрэто, з якіх адну скампанаваў Шчаглоў («Усяслаў Чарадзей»), другую Туранкоў («На выраі»). Ларыса Геніюш выдала нядаўна у Празе свой першы зборнік вершаў пад загалоўкам. «Ад родных ніў». Яна здольная паэтка і гарачая патрыётка.

Дарма што вайна, беларуская літаратура за апошнія два гады узбагацілася ня толькі вершамі, але і большымі творамі. Сюды належаць опэрныя паэмы «Лясное возера» Натальлі Арсеньневай і раманы «Таварышы» і «Наўсуперак лёсу» Рыгора Мурашкі. Недалёкая ужо гадзіна, калі беларуская літаратура зьбярэ свае старыя і новыя сілы і знойдзе просты шлях, які павядзець яе да апошняе вышыні—да Эўропы.

(Апублікавана у ням. «Менскай газэце» ад 15.IV.43 і 22.IV.43).

**(Канец)**

Д-р Н. Абрамава
Старшая праваднічка.

# ДА ПРАЦЫ, МОЛАДЗЬ!

Беларуская моладзь! Як павінна ты сяньня ганарыцца, што можаш жыць у слаўную эпоху змаганьня Праўды з сусьветным злом! Як павінна ты цешыцца з таго, што маеш гонар быць пакліканай да актыўнае працы для праменнае будучыні народу.

Бязглузда шэпчуць часамі бацькі: «Давялося нарадзіцца і жыць у гэткі неспакойны час... Вось дзяды нашы — дык жылі: ціха, бяз страху, спакойна...» Трухлявы быў гэны спакой. Гэта быў спакой адчаю, безнадзейнасьці.

Эпоха царызму заціснула была народ у бяспрасьветную працу, ня дбала аб разьвіцьці, аб уздыме народу. У коле прымітыўнае разбэшчанасьці жылі упрывілеяваныя клясы. Галасы пратэсту самаадданых змагароў разьбіваліся аб сьцяну маўклівасьці, народ марнеў, дзічэў, затойваючы боль, абразу і пал, які ускіпаў і вёў да разбураючых чынаў.

Настала рэвалюцыя. На сваіх сьцягох напісала праменістыя, вабячыя лёзунгі аб шчасьці, падхапіла народныя хвалі і на грэбнях іхнае моцы вынесла на паверхню жыцьця валадара сусьвету: жыдоўства. На ягоны загад разьліўся па краіне жахлівы разгул ЧК—ГПУ—НКВД. Мэта іх — зьнішчыць жывую сілу славянства, забіць творчае, забіць ініцыятыву і прымусіць паслухмяна схіляцца у кульце Сталіна перад воляй крэмлёўскіх драпежнікаў — была зьдзейсьненая. Актыўнае — зьнікла у выгнаньні... Што засталося — аўтаматызавалася... Яшчэ больш адзічэла, згубіла свае сілы, веру, пераконаньні. Пакарылася.

Ішлі гады... У навагоднія ночы уздымалі бакалы і у патускнелых вачох падсавецкіх людзей няясна мільгацела глыбака затоенае жаданьне: «Вызваленьне». Але нават ціхі шэпт вуснаў не адважваўся вымаўляць гэтага слова.

За нішто: за слова праўды, за вясёлы анэкдот, за песьню — ссылалі моладзь: школьнікаў, студэнтаў. Ссылалі, каб яны ня сеялі сярод моладзі думак, каб не наважваліся крытыкаваць, аб чым-небудзь іншым марыць. Ім дазвалялася толькі выслаўляць «новую эпоху» і Сталіна.

Беларуская моладзь, як шчасьлівая ты! Ці падзякавала за найшчасьлівейшы лёс, што гэтак безбалюча лёгка, дзякуючы сіле нямецкага мяча, апынулася на гэтым баку далёка ад савецкага раю? Што ня бачыш праплюшчаных вачэй агідных сталінскіх партрэтаў, што асьмейвалі тваё жыцьцё, што ня чуеш больш маны, якой цэлае чверцьвечча ачмучвалі статак «савецкага народу», што ты жывеш, — бо калі-б ты была сяньня са Сталіным, дык ты-б ужо загінула на фроньце!

Вось трэйці ўжо год ты, беларуская моладзь, дыхаеш вольна, не баючыся начных страхаў зданi «чорнага ворана». Ня ведаеш стаханаўскага бізуна, што зьнясільваў людзкія натуры, ніхто ня топча у гразь твае сьвятыя пачуцьці, ніхто не сьмяецца над тым, што табе над усё міла. Жыве, працуе, адбудоўвае свае разбураныя гнёзды народ. Нямецкая апека дзейна дапамагае працы актыву. Наглядаецца моцны, здаровы кантакт нашага народу з народам нямецкім, шчырае сяброўства, узаемадапамога.

Адраджаецца жыцьцё. З якой любасьцю бярэцца наш селянін да працы. Ён ведае: ураджай — ягоны, ён яго зьбярэць і адпаведна разьмяркуе. Не давядзецца больш, як жабраку, цягацца у горад і там у доўгай чарзе атрымліваць плод свае працы па спэкуляцыйнай цане. О, як любіць ён зноў гэтую зямельку! Як любіць кожнае каліўца збожжа на ёй! Як даглядае свайго коніка, сваю кароўку! Зноў прабілася і зіхаціць адзнака ягонае запраўднае натуры—працавітасьць і старэннасьць, што былі высмалены калгаснаю сыстэмай.

Спарней ідзе праца работніка. Дарма, што яго не завуць пачэснай мянушкаю «пралетар», дарма, што не уздымаюць ягоны гонар «ягонай» дыктатурай, жыцьцё сталася запраўды лепшае. Прадукцыя стаіць вышэй. Няма гэтай агіды: тэмпаў, стаханаўшчыны, шматварштацтва.

Настаўнік з запалам працуе. Сяньня ня грызе яго уначы дакор, што ён атручвае шатанскаю мэтодыкай камуністычнага узгадаваньня жывую, чыстую душу дзіцяці. Сяньня ён гаворыць яму аб запраўднай, а не «клясавай» маралі. Сяньня ён можа выхаваць любоў да свае нацыі, гаворыць аб пашане да старэйшых і не баіцца, што за ягонае слова ягоныя вучні могуць аддаць яго за узнагароду у рукі НКВД. Сяньня ён можа пайсьці у царкву, калі яму ахвота, ніхто не абсьмяе, ні праз сход, ні праз насьценгазэту, ніхто не пакліча на «выхаваўчую гутарку» у мясткам.

Сяньня кажны можа выявіць творчую ініцыятыву, плённа выкарыстаць сваё уменьне, здольнасьці, сілы.

Дарма, што грымяць гарматы, пад заслонаю нямецкага мяча наша краіна шпарка разьвіваець і сваю культуру, і свой дабрабыт. Нашаму народу дадзеныя шырокія магчымасьці: працуюць сярэднія школы і спэцыяльныя навучальныя установы: мэдычныя, мастацкія, гандлёвыя. Працуе мэдычны інстытут. Разьвіваецца тэатральнае мастацтва. За час вызваленьня створаныя новыя опэры, камэдыі, драмы, напісана безьліч песьняў і аркестравых рэчаў. Мацнеюць мастацкія кадры. Ладзяцца выстаўкі мастацкае творчасьці, якія паказваюць багацьце тэмаў, вобразаў і настрояў з часу, як спынілася агідная практыка саветаў: «сацыяльны заказ». Арганізуюцца падарожжы—экскурсіі, нацыянальныя і рэлігійныя урачыстасьці, спаборніцтвы у спорце. Разгортваюцца шахматныя турніры. Шырока пастаўлена выдавецкая справа. Аднаўляюцца і будуюцца новыя сьвятыні. Беларусь мае сваю Цэнтральную Раду на чале з прэзыдэнтам, мае свае мужныя батальёны, сваю паліцыю.

Гучыць, пяе жыцьцё. Вір адбудовы захапляе.

Якое-ж месца займаеш ты, беларуская моладзь у гэтай гігантычнай працы уздыму?—22. VI 1943 году зьдзейсьнілася мара. Быў абвешчаны даражэйшы падарунак Беларусі ад Праваднра Нямеччыны — дазвол на стварэньне Саюзу Беларускае Моладзі. Улюбёнае дзіцянё сьв. пам. гаўляйтара Вільгэльма Кубэ пачало афіцыйна існаваць.

Саюз Беларускае Моладзі — гэта вынік намаганьняў жыцьцяздольных сілаў краіны, якія з першых дзён вызваленьня прабіваліся навонкі актыўным імпэтам служыць у інтарэсах стварэньня Новае Беларусі.

Саюз Беларускае Моладзі узьняў новы, запраўды рэвалюцыйны (у лепшым сэнсе гэтага слова) штандар і вядзе маладую Беларусь у шэрагі перадавых краінаў Эўропы..

Ты, беларуская моладзь, у значнай сваёй большасьці гэта ужо зразумела. Ты усьведаміла, як нехапае тваёй Бацькаўшчыне асьветы, сьведамасьці, гонару, веры у свае магчымасьці і вартасьці. З гэтае пары ты прагнеш аднаго: пазбавіць сваю радзіму ейнага бя-



Слонімскія юнакі маршыруюць праз горад

дацкага, жабрачага выгляду, адсунуць ад яе бядоту і цемру, спыніць занялаласьць. Ты хочаш бачыць яе упарадкаванай, працавітай, дужай, асьвечанай, мужнай прыбранай, сьвяточнай. У імкненьні да гэтых ідэалаў ты узьняла свой сьцяг, на якім віднеецца сымбаль веры, працы і змаганьня.

У першыя калёны СБМ прышлі лепшыя сыны і дочкі Бацькаўшчыны. На гэты шлях іх прывяла сьведамасьць, нявычарпаныя сілы і палкая любоў да народу. Гэтымі першымі змагарамі, на якіх было кінута шмат каменьняў рукамі ворагаў прагрэсу, — ты, беларуская моладзь, можаш ганарыцца. Сярод пагрозаў, зьнявагаў, насьмешак пачала свае першыя крокі арганізацыя моладзі. Усе цяжкасьці перамагаюцца адзіным дружным высілкам. Усё больш і больш галінаў жыцьця ахоплівае гэтая арганізацыя. Там, дзе папраўляюць дарогі, дзе капаюць торф, дзе зьбіраюць ураджай, дзе капаюць акопы, дзе туляцца да нямецкіх грудзей бежанцы, там, дзе хворыя дзеці, дзе зборка сродкаў для безнаглядных, дзе раненыя салдаты, дзе гучныя нацыянальныя урачыстасьці, дзе жалобныя паховіны змагароў за ідэю — усюды мы бачым твае зялёныя мундуры, арганізаваная беларуская моладзь! Ты моцна узялася за працу. Ты хочаш сваёй увагай і руплівым доглядам ахапіць усе закуткі жыцьця.

Ты моцна ведаеш, што у кантакце і сьціслай лучнасьці з краінай — вызваліцельніцай, дбаючы, каб тваім правадыром быў Правадыр Новай Эўропы,— ты дасягнеш для свайго народу за кароткі тэрмін таго, чаго дасягнула Нямеччына. Ты ведаеш, што не для зьдзекаў і прыгнёту вызвалены твой край, а дзеля таго, каб нарэшце даць яму магчымасьць узьняцца.

Колькі увагі прыдае Нямеччына разьвіцьцю нашага дабрабыту, як падштурхоўваецца ініцыятыва, як вышуківаюцца здольныя, як падтрымліваецца і песьціцца творчая думка, як моцна прымушаюць да працы на нашу-ж карысьць! Цягнуць наш народ да уздыму, да веды, да камфорту, калі-ж так было? Ці апякавалася калі гэтак Расея? Польшча? СССР?

Ты, моладзь, пястунка Нямеччыны, ведаеш, як нікто што значыць сяброўства з ёю і ейнай моладзьдзю. Ты была у школах нямецкіх юначак і пабач з імі навучалася. Ты бачыла прыгаство, арганізаванасьць і парадак іхнага жыцьця. Ты мела магчымасьць вывучыць натуру сваіх нямецкіх кіраўнікоў і упэўнілася, што яны не прыгняталынікі, а нашыя прыяцелі і апякуны. Бязглузда маніць той, хто распаўсюджвае нэгатыўныя весткі аб Нямеччыне! Той, хто супраць гэтага кантакту — той вораг Беларусі, бо дасягнуць эўрапэйскага узроўню Беларусь зможа не сама, а толькі з дапамогаю Нямеччыны.

Супраць кантакту можа выступаць толькі бальшавік — сынонім анархіі, хаосу, дзікарства і барбарства, бо Нямеччына краіна найвялікшай арганізаванасьці, парадку, далікатнасьці і прыгаства.

Супраць гэтага кантакту можа выступаць толькі той, хто сэрцам спрыяе жыдоўству, які пастанавіўператварыць «гояў» у скаціну для сваіх мэтаў, бо Нямеччына першая адчыніла усім вочы на ролю сусьветнага жыдоўства і абвесьціла бой ягонаму наступу на культуру арыйскіх народаў.

Ты, беларуская моладзь, гэта зразумела і выбрала свой пэўны шлях. Тых, што яшчэ хістаюцца, што са страху і нястойкасьці духу яшчэ могуць схіліцца да лясных нагаворшчыкаў і пайсьці на павадку іхнае маны — падмацуй сваёй воляй, сваім жарам да чынаў, сваім прагненьнем стацца сябрам Эўропы, а не загінуць на шыбеніцы, якая прытуліць усіх валацугаў, што разбураюць наш дабрабыт і хочуць загарадзіць нам шлях да волі і лепшага заўтра.

---

# ЗАГАД № 24

Шэфа Кіраўнічага Штабу СБМ

Гор. Менск 30 лістапада 1943 г.

**Саюз Беларускае Моладзі будзе вечна шанаваць сьветлую памяць усіх сяброў і сяброўак, якія загінулі у працы і змаганьні за нашыя ідэалы, і над іхнымі магілкамі аднаўляць сваё юнацкае забавязаньне на вернасьць Беларускаму народу і Бацькаўшчыне.**

**Дзеля шанаваньня памяці загінутых геройскай сьмерцю сяброў і сяброўак СБМ загадваю:**

**1. У паховінах бяруць удзел усе адзінкі СБМ у дадзенай мясцовасьці са сваімі сьцягамі. Пры выстаўленай дамавіне (у часе жалобнага акту ці рэлігійнага абраду) стаіць ганаровая варта з юнакоў і юначак. Пры апушчаньні дамавіны у дол найстаршы кіраўнік моладзі (Акруговы кіраўнік ці Групавод) абвяшчае: «Дружыновы Уладзімер Жызьнеўскі (узята для прыкладу!) адклікаецца у Зьвяз Гэрояў Саюзу Беларускае Моладзі», пры чым пахіляюцца сьцягі, сябры салютуюць і хорам адказваюць: «Аддаў жыцьцё для Бацькаўшчыны і будзе вечна жыць між нас».**

**2. Іменьні загінутых гэраічна сяброў і сяброўак СБМ публікуюцца загадам Шэфа Кіраўнічага Штабу СБМ аб «адкліканьні у Зьвяз Гэрояў Саюзу Беларускае Моладзі» і даюцца новым грамадам і гурткам у дадзенай акрузе (павеце) як сымбаль, што яны не загінулі дарэмна, але жывуць далей між нас.**

**3. Штогоду наконадні 22 чырвеня (перад днём забавязаньня моладзі) сьвяткуецца Вечар Памяці Гэрояў. Іменьні адкліканых у Зьвяз Гэрояў СБМ урачыста адчытваюцца у часе зборкі пры купальскім вогнішчы. Да пераклічу шыхтуецца увесь зьвяз (круг). Іменьні загінутых устаўляюцца паміж іменьняў жывых, якія адклікаюцца: «Тут». Калі успамінаюцца іменьні загінутых, дык кіраўнік грамады (кіраўнічка гуртка) адказвае: «Аддаў (ла) жыцьцё для Бацькаўшчыны», а увесь зьвяз (круг) хорам кажа: «І будзе вечна жыць між нас».**

**М. ГАНЬКО**
**шэф-праваднік**

# ГЭРОІ СБМ

## ЗАГАД № 31

### Шэфа Кіраўнічага Штабу СБМ

Гор. Менск 22 сьнежня 1943 г.

У Зьвяз Гэрояў СБМ залічаю:

1. зьвязовага Бародзьку Івана (1916—1943), Слуцак
2. грамадовага Новіка Івана (1923—1943), Слуцак
3. дружыновага Жызьнеўскага Уладзімера (1923—1943), Глыбокае
4. зьвязовага Ротэнбэрга Пятра (1926—1943), Ганцавічы
5. зьвязовага Аксючыца Язэпа (1922—1943), Менская акр.

Аддалі жыцьцё для Бацькаўшчыны і будуць вечна жыць між нас!

М. ГАНЬКО
шэф-праваднік

### ЗЬВЯЗОВЫ ІВАН БАРОДЗЬКА

20 жніўня 1943 г. адыйшоў ад нас трагічнай сьмерцю зьвязовы Іван Бародзька, заступнік Акругова кіраўніка моладзі у Слуцку. Ён быў амаль першай ахвярай з нашых радоў. Нас пакінуў у ягонай асобе адзін з актыўнейшых змагароў за будучыню Беларускага народу.

Іван Бародзька нарадзіўся 29 чырвеня 1916 г. у вёсцы Старчыцы Вызьнянскага павету у сялянскай сям'і. Пасьля заканчэньня Вызьнянскай сямёхгадовай школы вучыўся у Слуцкім пэдагагічным тэхнікуме, а скончыўшы 2 клясы, паступіў у 1932 годзе у Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт. Праз 2 гады быў пераведзены у Маскоўскі Унівэрсытэт, які закончыў у 1936 годзе з дыплёмам 1-ае ступені.

Пасьля заканчэньня Унівэрсытэту працаваў за выкладчыка матэматыкі і фізыкі у Краснаярску, спачатку у сярэдняй школе, а потым у настаўніцкім інстытуце. Імкненьне да веды было характэрнай рысай Івана Бародзькі. Працуючы за настаўніка, ён адначасова завочна навучаецца у асьпірантуры пры Маскоўскім Унівэрсытэце.

Вайна захапіла Івана Бародзьку у бальшавіцкай арміі, дзе ён працаваў у якасьці брыгаднага настаўніка. У верасьні 1941 году ён кідае зброю і накіроўваецца у сваю дарагую Беларусь, каб аддаць усе свае сілы у змаганьні за сьветлую будучыню свайго народу.

У 1941—42 г.г. працаваў за выкладчыка Жывагладаўскае сямёхгадовае народнае школы. З 15 жніўня 1942 г. быў за заступніка школьнага інспэктара Вызьнянскага павету. У вапошні час працаваў за старшыню БСП і паветавага школьнага інспэктара Вызьнянскага павету.

Жыцьцё зьвязовага Івана Бародзькі павінна служыць нам яркім прыкладам таго, як трэба жыць, працаваць і змагацца для лепшае долі нашае Бацькаўшчыны.

Сьпі спакойна, дарагі наш сябра! Няхай табе будзе мяккай родная зямелька, якая цябе узгадавала і дала табе сілу і розум. Мы, твае сябры і супрацоўнікі, з глыбокім жалем схіляем галовы над тваёй сьвежай магілай. Але твой сьветлы вобраз будзе заўсёды стаяць перад намі у гэты цяжкі час напружанага змаганьня.

### ЗЬВЯЗОВЫ ЯЗЭП АКСЮЧЫЦ

Нарадзіўся у 1922 годзе у вёсцы Заверʼе Лагойскага павету Менскай акругі у сялянскай сям'і. Ад 1931 да 1935 году вучыўся у Зазерскай пачатковай школе, а потым скончыў 8 клясаў Лагойскае сярэдняе школы. Пазьней ён быў на настаўніцкіх курсах у Менску і працаваў за настаўніка у Сілецкай пачатковай школе і у Лагойскай сярэдняй школе, адкуль ён быў накіраваны на курсы малодшых кіраўнікоў моладзі у Альбэртыне. Там атрымаў вызначэньне за зьвязовага і быў прызначаны за групавода моладзі у Лагойску. Працаваў адначасна за настаўніка і кіраўніка моладзі. У кастрычніку 1943 году яго спаткала заўчасная трагічная сьмерць, абрываючы ягоную карысную працу.

### ДРУЖЫНОВЫ УЛАДЗІМЕР ЖЫЗЬНЕЎСКІ

7 лістапада 1943 г. адбыліся у Глыбокім урачыстыя паховіны 20-цігадовага гэроя, дружыновага Уладзімера Жызьнеўскага, які аддаў сваё жыцьцё у змаганьні са сталінскімі бандытамі.

Уладзімер Жызьнеўскі нарадзіўся у 1923 г. у вёсцы Шындзялішкі Докшыцкага павету у сям'і беднага селяніна. Пачатковую школу скончыў у роднай вёсцы, а потым з вялікімі цяжкасьцямі скончыў польскую сямёхгодку у Докшыцах. Ня маючы магчымасьці вучыцца далей, застаўся пры бацьку і займаўся самаадукацыяй.

За войстрыя і праўдзівыя словы супроць Саветаў ён быў прызначаны на вываз у Сібір і толькі выпадкова застаўся пры жыцьці. Апошні год ён аддаўся нацыянальнай працы і працаваў у Порплiскай валаснай управе. Ягоным гарачым жаданьнем было аддацца працы СБМ і з гэтай мэтай ён прыяжджае у Глыбокае, каб атрымаць інфармацыі і паехаць на курс малодшых кіраўнікоў у Альбэртыне.

Але тут, гаручы, як заўсёды, нянавісьцю да ворагаў Беларускага народу—сталінскіх валацугаў, ён едзе з юнацкай Самаахоўай у ваколіцу і на пасту атрымвае сьмяротную рану ад кулі бандыта. Назаўтра 5 лістапада, пасьля цяжкога змаганьня з болем ад раны у жывот, ён паміраe, як малады гэрой.

Чэсьць ягонай сьветлай гэройскай памяці! Ягоны прыклад вядзе і нас на бясстрашнае змаганьне з усімі ворагамі нашага народу—за волю і будучыню Беларусі. Ягонае імя будзе запісанае на нашых змаганскіх сьцягох і павядзе нас да перамогі.

### ГРАМАДОВЫ ІВАН НОВІК

Нарадзіўся 28 траўня 1923 году у вёсцы Замошша Слуцкага павету. Меў сярэднюю пэдагагічную асьвету (закончыў Слуцкі пэдагагічны тэхнікум) і працаваў за настаўніка у сваім павеце. Закончыўшы з добрым вынікам першы юнацкі курс у Альбэртыне, ён прыехаў у свой раён, каб прыступіць да арганізацыі СБМ, але ужо на другі дзень быў схоплены бандытамі і загінуў (канец ліпеня 1943 г.).

### ЗЬВЯЗОВЫ ПЁТРА РОТЭНБЭРГ

Нарадзіўся 3 студзеня 1926 году у вёсцы Круговічы Ганцавіцкага павету. У наступным годзе ягоныя бацькі пераехалі у Малькавічы. Скончыўшы польскую сямёхгодку, Ротэнбэрг паступіў у Баранавіцкую гімназію, але пасьля першае клясы быў вымушаны вярнуцца дамоў. У 1939 годзе едзе на навуку у Лунінец, а у наступным годзе канчае сямёхгодку у Малькавічах. Пры нямецкай уладзе ён працягвае спачатку сярэднюю адукацыю, а у 1942 годзе ідзе на настаўніцкія курсы у Ганцавічах. Пасьля гэтага ён працаваў за настаўніка у вёсцы Хатынічы Ганцавіцкага павету. Скончыў першы юнацкі курс у Альбэртыне і атрымаў службовую ступень зьвязовага. Арганізуючы моладзь у сваім павеце, ён сьцягнуў на сябе увагу партызанаў. Калі ён варочаўся 21 кастрычніка 1943 г. фурманкай ад бацькоў у вёсцы Малькавічы, дык быў каля Задуб'я затрыманы партызанамі і загінуў.

## Загад № 6

### Шэфа Кіраўнічага Штабу СБМ

Гор. Менск 15 студзеня 1944 г.

У Зьвяз Гэрояў СБМ залічаю: старшага юнака Янку Сідаровіча (1923—1943), Глыбокае.

Аддаў жыцьцё для Бацькаўшчыны і будзе вечна жыць між нас.

**М. Ганько**
шэф-праваднік

### Старшы юнак Янка СІДАРОВІЧ

25 сьнежня 1943 г. загінуў ад рук подлых бандытаў сябра Саюзу Беларускае Моладзі старшы юнак Янка Сідаровіч.

Нарадзіўся ён у 1924 г. у вёсцы Курапольле Пастаўскага павету Глыбоцкай акругі. З раньніх гадоў ён лятуцеў аб вольнай і шчасьлівай Бацькаўшчыне і імкнуўся змагацца з ейнымі ворагамі.

Апошнім часам вучыўся у Беларускай Настаўніцкай Сэмінарыі у Паставах. У часе зімовых канікулаў выбраўся быў у сваю родную вёску, каб адведаць старых ужо бацькоў і правесьці з імі радаснае каляднае сьвята.

Але аб ягоным побыце у вёсцы даведаліся бандыты і пастанавілі папробаваць цьвёрдасьці юнацкае волі. Прыйшоўшы да яго у хату, яны далі яму да выбару тры рэчы: апаганіць юнацкую уніформу, аддаўшы яе у іхныя агідныя рукі, зрадзіць і выдаць сваіх сяброў—або сьмерць.

Спачатку Янка ня ведаў, што яму выбіраць: яму шкада было маладога жыцьця... Але тут прыпомніўся яму дзясяты юнацкі запавет, дык зьніклі і апошнія сумляваньні і ён горда адказаў: «Лепш згіну, але ня зраджу сяброў і не апаганю сваёй уніформы!»

Такога адказу бандыты не спадзяваліся: іх агарнула страшэнная злосьць і яны пастанавілі расправіцца з юнаком пасвойму. Забралі яго з роднае хаты і ужо назаўсёды...

Ягонае імя і чын ніколі не загінуць у нашай памяці. Мы усе хочам быць такія, як ён, хочам усе быць мужнымі і ахвярнымі гэроямі!

## *МАЛАДАЯ МУЗА*

### ПЕСЬНЯРУ

Не кажы мне пра шчасьце, што недзе у горах,
Пад гарачым блакітам цьвіце,
Не пра шэрагі пальмаў, адбітыя ў моры, —
Ня туды мяне думка нясе...

Не кажы пра палацаў вялікіх усходы,
Пра жыцьця бліскатлівы абраз,
Пра магутную славу вялікіх народаў—
Раскажы, як жывуць там, у нас!

Раскажы мне пра сонца усьмешкі вясною
Сярод вербаў срабрыстай расы
І раскінь ты дыван пышна-тканы прад мною, —
Хай шумяць васількі, верасы...

Хай калосьсе мне рукі цалункам ласкоча,
Як тады, калі ўбачыў яе,
І на Нёмнавай хвалі рыбак хай ахвоча
Пра каханьне, пра шчасьце пяе...

**Г. Бузук.**

### ВЫЗНАНЬНЕ

— Скажы мне, хто ты, мой юнача?
— Я Беларусі-Маці сын.
— Які твой край?
— Радзіма наша
вялікая,
багатая
й прыгожая, як вокам кінь!
— А дзе яна, скажы, юнача?
— Ад Беластоку па Смаленск.
— Дзе дома ты?
— Дзе мова наша
красуецца
і чуецца
ад вёсак — па сталіцу Менск!
— Каго кахаеш, мой юнача?
— Найбольш кахаю свой народ.
— Чаму?
— Па ім душа мне плача,
а плачу я,
як бачу я,
што ў путах з роду ён у род!..
— Што-ж мусіш знаць ты, мой юнача?
— Што працаваць, змагацца трэ'!
— За што?
— За будучыню нашу,
свабодную
й пагодную!
Перамагу — бо моц у мне!
— Які штандар твой, мой юнача?
— То бел-чырвона-белы сьцяг.
— А знак?
— Пагоня, гордасьць наша,—
князёўская,
крывіцкая,—
то сьветлы ў будучыню шлях!
— Што прысягнуў ты, мой юнача?
— Аж да магілы верным быць!
— Каму?
— Краіне-Маці нашай:
яе я век
на ганьбу, зьдзек
ня дам, бо ў путах — лепш ня жыць!
— У што ты верыш, мой юнача?
— Што несьмяротны мой народ!
— А ты?
— Як лёс ісьці мне скажа
героем стаць,
і шкадаваць
жыцьця ня буду за народ!

**В. Аганёк.**

### ЗАКЛІК

Хто хоча змагацца за нашы ідэі,
ісьці тэй дарогай, якой мы ідзем,—
няхай з шчырым сэрцам і поўны надзеі
ўступае ў рады СБМ!

Гэй, з намі да волі, да лепшага заўтра,
і верце, што хутка дайдзем,
што згіне няпраўда, што жыць будзе праўда,
што зможа усё СБМ!

Наперад! Наперад! Дарогай адзінай
бяз страху усе мы пайдзём.
Гуртуймася дружна у моцна любімай
адзінай сям'і СБМ!

**А. Якубовіч.**




(Канец, пачатак гл. у 4—5 нумары)

**6. Гігіенічныя указаньні аб ахове здароўя**

У часе заняткаў трэба перасьцерагаць наступныя указаньні:

а) Вопратка павінна быць лёгкая, не павінна уціскаць цела і тармазіць свабоды рухаў. Гартаваньне павінна быць паступовае,—у сонечныя цёплыя дні практыкаваньні выконваць без кашуляў, у халодныя—у кашулях, у зімнюю пару—у вопратцы, але з расшпіленымі каўнярамі, без паясоў. У часе перапынкаў пасьля заняткаў апранацца цяплей, чымся пры праводжаньні іх. Пасьля загартаваньня можна і у халодныя дні практыкавацца у вадных толькі трусох. Пабудова людзкога арганізму дастасоўваецца да гэтага і адначасна павялічыць даплыў крыві да скуры і цягліцаў, адпаведна награючы цела, бо частка жыўленьня ідзе на аграваньне арганізму. Для практыкаваньняў заўсёды павінна быць спэцыяльная вопратка, якую трэба часта мыць (асабліва панчохі і шкарпэткі).

б) Заняткі у васнове трэба праводзіць на вольным паветры.

Пасьля загартаваньня некаторыя практыкаваньні, як гульні, лёгкую атлетыку, гімнастыку, можна праводзіць і у халодныя дні, і у непагоду, — калі толькі яны будуць праводзіцца у бесьперапынным руху, а у часе адпачынкаў і перапынкаў юнакі будуць пад страхой. У дажджлівыя дні заняткі праводзіць у памешканьні (гімнастычная заля або іншае, прыстасаванае да гэтага памешканьне), але пры адпаведным правертываньні.

в) У часе марозаў ніжэй 10⁰ не сьпяваць. Можна тады праводзіць толькі гульні, якія вымагаюць сталага руху.

г) Пляцы для заняткаў і гімнастычныя залі павінны утрымоўвацца у чысьціні, перад заняткамі выцерці падлогу мокрай трапкай.

д) Не праводзіць заняткаў раней, як праз 2 гадзіны пасьля прыняцьця большае колькасьці ежы (абед), або праз гадзіну пасьля меншае колькасьці. Гэта таму, што пры працы большая частка крыві знаходзіцца у цягліцах, а у часе траўленьня — у страўніку. Таму што напружаная праца цягліцаў і страўніка ня можа адбывацца адначасна, дык або затрымаецца траўленьне, а цягліцы будуць працаваць, або праца цягліцаў будзе затрыманая, а будзе адбывацца траўленьне.

е) Не рэкамэндуецца таксама есьці пасьля цяжэйшых практыкаваньняў, раней трэба адпачыць мінут 15—30, каб кроў мела час адплысьці з цягліцаў у страўны правод і узяць удзел у падрыхтоўцы сокаў.

ж) Непасрэдна пасьля заняткаў нельга ані класьціся на голай зямлі, ані піць халоднае вады. Найлепшым напіткам, які заспакойвае прагласьць на адпачынку, зьяўляецца гарачая лёгкая гарбата, або кава із збожжа з цукрам, або гарачая вада з цукрам. На зьліквідаваньне прагласьці зусім дастаткова аднае шклянкі гэтага напітку. Даданьне соку лімону пажаданае, але не абавязковае. Пры недахопе гарачае гарбаты ці кавы даволі прапаласкаць некалькі разоў вусны і горла вадой, або нават выпіць невялікую колькасьць (паўшклянкі), пры чым кажны раз, глытаючы, для ацяпленьня трэба ваду затрымаць на момант у вуснах.

з) Алькаголевых напіткаў не ужываць зусім.

і) Пасьля заняткаў трэба вымыцца цёплай вадой і выцерці цела, а таксама зьняць кашулю. У халодныя поры году зараз-жа скінуць цеплую вопратку.

Апрача гэтага абавязкова трэба перасьцерагаць правілы штодзённае гігіены, якія падаюцца ніжэй. Хто не захоўвае гэтыя правілы, той ня можа быць запраўды здаровы і фізычна спраўны, таму трэба, каб юнакі пры кажнай нагодзе засвойвалі і трымаліся правілаў штодзённае гігіены.

**7. Правілы штодзённай гігіены**

Мый рукі, твар і шыю штодзённа раніцай, а апрача гэтага мый рукі перад ядой і калі варочаешся з клявэту.

## СЯБРУ

Ты кажаш, — далёка яшчэ да сьвітаньня
Ты кажаш, што дзень больш ня прыйдзе да нас;
Ты кажаш, — ніколі ужо не настане
Свабоды вясеньняй і росквіту час,—
А глянь: ужо хваля бурліць нясупынна,
Парваўшы аковы — ільды берагоў,
Імчыцца і рвецца, на вока навінна,—
А глянь — як магутная сіла ізноў!
Ты кажаш, што нас ёсьць замала на сьвеце;
Ты кажаш, што вораг сільнейшы за нас;
Ты кажаш, што мы, як бясьсільныя дзеці
Супроць тых кайданаў, што выкаваў лёс,—
О, браце! Ня ведаеш ты, што змаганьне!
Што толькі грудзьмі нам няволю ламаць,
Што трэба нам, покі ў руках сілы стане,
Змагацца і помсты жалеза каваць!

Май 1943.

**Г. Бузук.**

## НОВЫ ГОД

Ня цьвіце чабор на межах,
Над вадой бакас ня плача—
У лісьцях жоўтых белы сьнежань
Крыжачка з задорам скача...

Тоўсты лёд скаваў Арэсу
І на Нёман кінуў путы...
Дзед Мароз выходзіць з лесу,
У лапці новыя абуты...

У хатах чыста, ўсюды ўбрана,
І куцьця садзіцца ў покуць:
Новы Год, даўно чаканы,
К нам ідзе нячутным крокам...

На ялінках стужкі тэнчу,
Зіхацяць жучкі, арэшкі...
Ля ялінак дзеці кленчаць,
На губах цьвітуць усьмешкі.

У небе месяц серабрыцца,
Сьнег і сінь мо' вёрст на дзьвесьце...
За сталы народ садзіцца:
— Дзед Мароз, куцьцю йдзі есьці!

1943 г.

**М. Кавыль.**

Трымай заўсёды ногці у чысьціні.

Пасьля заканчэньня працы мыйся прынамсі да пояса.

Купайся або мый цэлае цела цёплаю вадою прынамсі раз у тыдзень.

Пасьля купаньня або мыцьця цёплай вадою трэба абліцца халоднаю вадою.

Пры купаньні і мыцьці ужывай заўсёды мыла. Расчэсвайся толькі сваім грэбнем. Выцірайся толькі сваім ручніком.

Супольнае ужываньне гэтых рэчаў зьяўляецца прычынай пераношаньня шматлікіх заразных хваробаў (кароста, пархі, лішай, трахома і інш.).

Бялізну мяняй прынамсі раз у тыдзень. Ня сьпі у тэй самай бялізьне, у якой працуеш. Як найчасьцей зьменьвай ганучкі або шкарпэткі. Падчас халадоў мяняй іх хаця два разы у тыдні, а летам— два або тры разы у тыдні.

Старайся не насіць цеснага абутку, цеснае вопраткі, дзіравых шкарпэтак ці ганучак. Вопратка павінна быць дапасаваная, але даволі свабодная, і дазваляць свабоду рухаў, не уціскаць грудное клеткі, жывата, ног і г. д.

Апранацца па магчымасьці лёгка, каб не пацець, выконваючы рухі, аднак так, каб ня мерзнуць у часе адпачынку. Вопратку, у якой працуеш, трэба зьмяніць па заканчэньні працы.

Цесны або завялікі абутак зьяўляецца прычынаю намульваньня ног, нагнёткаў (мазалёў) і адпараньня. Нутраная даўжыня бацінка павінна быць на 1-2 цм даўжэйшая за даўжыню стапы. Бацінак павінен быць так шырокі, каб пальцы не заходзілі адзін на другі. Абутак павінен быць мягкі і непрамакальны. Асабліва у часе непагоды і зімою. Непрамакальнасьць абутку дасягаецца праз націраньне скуры час-ад-часу (ня надта часта) тлушчамі і парафінам. Штодзённа абутак чысьціць ад гразі і пылу і шмараваць пастай.

Не забывайся штодзённа праглядзець, ці у тваёй бялізьне няма вошаў або іншага паскудзтва. Калі паскудзтва ужо улезла, рабі усё, каб як найхутчэй пазбыцца. Некаторыя хваробы (плямісты тыфус) пераносяцца толькі праз вошы, таму чысьціня бялізны і вопраткі зьяўляецца важнай умовай утрыманьня здароўя. Найлепей штодзённа зьмяняць перад сном дзённую кашулю на начную. Вошы размнажаюцца вельмі хутка. Адна вош складае на працягу некалькі дзён на бялізьне або вопратцы ад 200 да 300 яйцаў (гнідаў), прычэпліваючы іх моцна да валасоў у тканіне. На працягу аднаго тыдня пры цяплыні людзкога цела, гэтыя гніды разьвіваюцца у вошы. Разьвіцьцё адбываецца значна даўжэй, а многа гнідаў зусім не разьвіваецца, калі кашуля будзе здымацца на пару гадзін у дзень, зьмяняцца і мыцца паводля вышэй пададзеных правілаў. Пры адсутнасьці спэцыяльных апаратаў, якія служаць для вынішчэньня гнідаў у вопратцы пры помачы пары ці гарачага паветра, вошы і гніды можна забіць, старэнна прасуючы вопратку, асабліва на унутраным баку швоў, гарачым жалязкам. Таксама можна вопратку палажыць на некалькі мінут у гарачую печку, аднак трэба з гэтым быць вельмі асьцярожным і паглядаць, каб не спаліць вопратку. Апрача вошаў, якія могуць знаходзіцца у вопратцы і галаве, ёсьць вошы сарамовыя. Каб іх пазбавіцца, найлепш месцы, занятыя імі, выгаліць, а пасьля вышмараваць шэрай мазьзю, або вымыць сулімой ці мешанінай ільняной алівы і нафтай (1 : 1).

Часта праветрывай сваё памешканьне. Халоднае паветра няшкоднае для здароўя, а пабуджае кроў і дыханьне і папраўляе апэтыт. Прабываньне у гарачым і душным паветры і дыханьне зужытым паветрам абніжае адпорнасьць на хваробы і прытупляе думкі чалавека. Памешканьне павінна утрымвацца у чысьціні і быць акуратна прыбрана. Падмятаць трэба мятлой або шчоткаю, абкручанай мокрай шматай, якая зьбірае пыл, што знаходзіцца на падлозе. Праветрываць памешканьне трэба некалькі разоў у дзень, асабліва вечарам (перад сном), адкрываючы вокны або дзьверы напралёт. У цёплую пару году спаць пры адчыненым акне або у гумне, найлепш на саломе. Спаньнё на сене,—асабліва на сьвежым,—не зьяўляецца здаровым.

Еж памалу і дакладна пераажоўвай. Дакладнае пераажоўваньне ежы уплывае на добрае траўленьне.

Дзеля дакладнага пераажоўваньня патрэбныя здаровыя зубы, таму трэба іх даглядаць, дакладна мыючы шчоткаю рана і увечары, або прынамсі вечарам, каб ачысьціць рот ад рэштак ежы, якія, гніючы, затручваюць дыханьне і псуюць зубы. У выпадку сапсаваньня зубоў трэба неадкладна пачаць іх лячыць у лекара (дэнтыстага).

Мыючы зубы, ужывай толькі уласную шчотку.

Мый зубы крэйдавым або вуглявым парашком. Пры чышчэньні зубоў шчоткай перасоўвай яе зьверху уніз і наадварот, знутра і звонку зубоў. Пасілкавацца толькі у усталеныя гадзіны, таму што тады найлепш можна стравіць ежу. Пасьля абеду ня прыступай да працы раней, як за $1^1/_2$—2 гадзіны. Вячэрай найпазьней на гадзіну перад сном. Не садзіся за стол, калі вельмі змучаны.

Прывучайся, каб твае кішкі штодзённа ачышчаліся рэгулярна, у тую самую пару. Клязэты павінны знаходзіцца воддаль ад жыльлёвых будынкаў, а калі няма магчымасьці, дык мусяць быць аддзеленыя, вылітыя вапнай і утрымвацца у вялікай чысьціні.

Ня пі водкі і іншых алькаголевых напіткаў. Алькаголь зьяўляецца атрутай, шкодзіць здароўю, паменшае сілу і фізычную спраўнасьць, зьяўляецца самай уважлівай прычынай беднаты працоўных. Пад дзеяньнем алькаголю людзі часта дапускаюць розныя праступкі. Алькаголь выклікае забурэньні у страўніку, сэрцы, галаве і г. д. Алькаголь зьяўляецца атрутай, якая перадаецца пасьля на патомства, дзеці алькаголікаў часта хварэюць на эпілепсыю, часта бываюць недаразьвітыя псыхічна або фізычна. Без алькаголю можна зусім добра абыйсьціся. Летам алькаголь спрыяе паўстаньню сонечнага удару, а зімою бывае поваадам замярзаньня, адмарожваньня і прастуды... Нарэшце алькаголь зьяўляецца галоўнай прычынай заражэньня вэнэрычнымі хваробамі. Яшчэ горшае за самое заражэньне укрываньне вэнэрычнае хваробы, таму што задаўненая хвароба апаноўвае арганізм сільней, а заражаная асоба пераносіць хваробу у вакружэньне. Лячэньне вэнэрычнае хваробы тым лягчэйшае і удалае, чым раней пачынаем лячыць. Таму трэба як найхутчэй зьвярнуцца да лекара, спэцыялістага у гэтай галіне, у тым выпадку, калі ёсьць падозраныя азнакі.

Зусім ня куры тытуну. Курэньне тытуну, асабліва у вялікіх колькасьцях, дрэнна дзеіць на сэрца, лёгкія, пагаршае апэтыт, спрыяе паўстаньню забурэньняў кішок і страўніка.

### 8. Які павінен быць інструктар фізычнага узгадаваньня?

Інструктар, які праводзіць заняткі, павінен служыць прыкладам для юнакоў, што да свае паставы і фізычнае спраўнасьці.

Заўсёды павінен старэнна падрыхтоўвацца да заняткаў, а маючы пэўныя няяснасьці што да іхнага выконваньня, павінен дамагацца выясьненьняў ад асобаў, болей азнаёмленых з гэтаю справай.

Практыкаваньняў ня можна ужываць як пакараньня, а наадварот, пры кажнай нагодзе старацца заахвочваць юнакоў праз застасоўваньне пахвалаў за добрае выкананьне практыкаваньня. Датычыць гэта асабліва юнакоў няспраўных, якія, калі пахваленыя праз інструктара, набіраюць ахвоты да практыкаваньняў і веры у собскія сілы.

Інструктар пазьбягае доўгіх выясьненьняў і ня трымае юнакоў у напружанай паставе. Выказвацца коратка і ясна, г. зн. паказвае практыкаваньне, выясьняючы самыя асноўныя моманты. Хутка пераходзіць з аднаго практыкаваньня да другога, а пры памылках не стараецца папрвіць усе памылкі, а папраўляе самыя важныя, у патрэбным выпадку паказвае практыкаваньне яшчэ раз, або перад вывучэньнем складанага руху вучыць раней рухі простыя.

У часе заняткаў стаіць у такім месцы, каб мець дакладны нагляд над усімі юнакамі. Ня ставіць іх ніколі пад вецер або сонца. Пры даволі небясьпечных практыкаваньнях ён павінен ужыць усе магчымыя сродкі асьцярожнасьці, каб не дапусьціць да якога-небудзь нешчасьлівага здарэньня.

# У ГУШЧАРАХ

*словы Н. Арсеньнявай, муз. М. Шчаглова*




У гушчарах затканых імглою,
Шэрым змрокам, на золку ў зару
Ахвяруем Табе мы сабою
2 р.
Кожны дзень, кожны час, Беларусь!
І няма ў сэрцах жалю, ці страху,
Мы адвагай жаўнерскай гарым,—
Не маскаль-бальшавік, і ня ляхі,
2 р.
Але Ты нас вядзеш да зары!

Хмараў дым над галовамі тае,
Вецер дыхае мятай, быльлём.
Беларусь, Беларусь залатая,
2 р.
За Цябе, за Цябе мы ідзём!

---

## Ялінка у Кіраўнічым Штабе СБМ

Вечарам 15-га студзеня 1944 г. у Кіраўнічым Штабе СБМ сабраліся запрошаныя беларускія і нямецкія госьці на ялінку.

Вялікая заля была прыбраная пасьвяточнаму. Ялінка, на якой вісела безьліч цацак, была вельмі прыгожая, а электрычныя разнакаляровыя лямпы прыдавалі ім серабрысты блеск.

Тут было старэйшае беларускае грамадзянства, як: Яго Высокапрэасьвяшчэнства Архіепіскап Філафей Нарко, Віцэ-Прэзыдэнт БЦР М. Шкялёнак, паэтка Н. Арсеньнева, старшыня Беларускага Культурнага Згуртаваньня А. Калубовіч, кіраўнік Аддзелу Прафэсійнага Мастацтва БКЗ В. Селях, кампазытар М. Шчаглоў, капітан Ф. Кушаль, сп. У. Родзька, рэдактар «Новага Шляху» У. Сядура, сп. Язэп Найдзюк, сп. С. Шаўцоў і інш.

З нямецкіх гасьцей былі: асабісты рэфэрэнт Гэнэральнага Камісара д-р Маркус, кіраўнік Аддзелу Палітыкі сп. Гэнэ, Гарадзкі Камісар сп. Бэкер, кіраўнік Аддзелу Моладзі обэрбанфюрэр Шульц, д-р Рыхель і інш.

Пасьля прывітальнага слова Шэфа Кіраўнічага Штабу СБМ, госьці праглядзелі мастацкую частку, у якой бралі удзел супрацоўнікі Кіраўнічага Штабу СБМ.

Праграма была вялікая і цікавая. Былі адсьпяваныя хорам Кіраўнічага Штабу беларускія калядкі, народныя песьні, прадэклямаваны шэраг вершаў і выкананыя народныя танцы.

Супрацоўніцы і супрацоўнікі Кіраўнічага Штабу СБМ зрабілі шмат здымкаў з гасьцьмі, якія ахвоча станавіліся у вялікім коле каля ялінкі.

Пасьля мастацкае часткі гасьцей запрасілі у сталовую. Супольная вячэра дала магчымасьць сяброўскіх гутарак і жартаў, гасьцей — з моладзьдзю. Застольная прамова Шэфа Кіраўнічага Штабу М. Ганько і ягонае ветлівае прывітаньне гасьцей было спатканае воплескамі. Прамаўлялі таксама: арх. Філафей, рэгірунгсрат Гэнэ, обэрбанфюрэр Шульц і сп. У. Родзька.

Пасьля вячэры госьці у добрым настрої пайшлі да ялінкі. Рытмічныя тэмпы музыкі не давалі супакою. Ног нельга было устрымаць на месцы, — яны хацелі скакаць.

І калі госьці пакідалі позна уначы скромны звонку Дом Моладзі, можна было прыкмеціць на іхных тварах тую вясёласьць, якая храктэрная моладзі пры гульні і забавах.

У кожнага была думка — каб больш гэткіх вечароў...

**Алесь К.**

# КАЛЯДНЫ РАНІШНІК
## САЮЗУ БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ ПРАЗ РАДЫЁ

26 сьнежня 1943 году Беларуская Радыёстанцыя Менск і Радыёстанцыя Баранавічы перадалі калядны ранішнік Саюзу Беларускае Моладзі з прамовай Шэфа Кіраўнічага Штабу для усяе беларускае моладзі.

У афармленьні ранішніка прыймалі удзел: цымбальны ансамбль Рыгора Самохіна, хор СБМ пад кіраўніцтвам хормайстра Фёдара Леўчанкі і супрацоўнікі Кіраўнічага Штабу, якія дэклямавалі вершы.

Ранішнік распачаўся музыкальным уступам з беларускіх матываў у выкананьні цымбальнага ансамблю. Важатая Галіна Бузук прыгожа прадэклямавала свой верш «Калядная ночка», у якім вобразна апісаныя Каляды.

Моладзь шануе нашыя старыя калядныя песьні і таму былі прасьпяваныя дзьве калядкі: «Ой сеў Хрыстос ды вячэраці» і «Неба і зямля».

Аб тым, як у радасьці адчуваецца маладая сіла, энэргія і воля да чынаў, творчасьці і змаганьня, расказаў верш М. Васілька «Я вольны« у выкананьні падправадніка У. Гарэліка ды юнацкая песьня «Марш арлянятаў» у выкананьні хору.

У сваёй доўгай прамове шэф-праваднік М. Ганько сказаў, м. і., наступнае:

«Дарагія мае сяброўкі і сябры з Саюзу Беларускае Моладзі!

Маю вялікі гонар і шчасьце зьвяртацца да Вас у дзень гістарычных Калядаў 1943 г., якія стаяць на парозе мінулых чатырох з паловай гадоў вайны і новых вырашальных падзеяў 1944 г. Выказваючы вам свае найлепшыя пажаданьні у гэты вялікі сьвяточны дзень, хачу спыніцца крыху на ягонай сымболіцы і значэньні для нас, беларусаў, ды заняць становішча да тых праблемаў, якія нас цікавяць і цікавіць павінны.

Каляды — гэта сьвята сям'і, сьвята, якое гэтак хочацца праводзіць у цішыні і цяплыні радзімага куточка пры засланым сянцом стале з куцьцёй і пры зялёнай, упрыгожанай сьвечкамі, цацкамі і падарункамі ёлачцы. Уся сям'я знаходзіцца у гэты калядны вечар разам і калі мы вымушаныя часамі праводзіць яго недзе далёка ад роднае хаты, дык мы сумуем і думкамі пераносімся усёроўна туды, дзе усе сьмяюцца і цешацца з утульнага спакою і ціхага шчасьця.

Сяньня мы сьвяткуем Каляды і як вялікае сямейнае сьвята дамавога супакою і шчасьця, і як прадвесьне перамогі сьвятла над цемраю, дабра над злом. Першае значаньне мае у сабе нейкую азнаку статычнасьці, калі другі сымбаль зьяўляецца сымбалем змаганьня, бо перамога ня прыходзіць ніколі сама без змаганьня...»

Ушанаваўшы памяць тых, хто аддаў сваё жыцьцё для Беларускага народу і Бацькаўшчыны, каб мы маглі спакойна сьвяткаваць, шэф-праваднік гаварыў далей:

«Каляды павінны быць для нас сьвятам згуртаваньня і салідарнасьці усіх жывых і актыўных беларускіх сілаў і напомненьнем, што увесь наш народ зьяўляецца аднэй вялікай сям'ёй. Гэта сьвята павінна уліць нам надзею, што кажнае змаганьне за справядлівую справу канчаецца перамогай, што заўсёды праўда і дабро бяруць верх над крыўдай і злом. А гэтая вера і надзея ніколі больш ня была так патрэбная, як цяпер, калі мы перажываем кульмінацыйны пункт змаганьня з ворагамі Новай Эўропы і ворагамі нашае праўды. Каляды 1943 г. і Новы Год павінны быць для нас абрахункам сумленьня, павінны умацаваць нашую волю і адна віць веру і надзею...

Саюз Беларускае Моладзі сьвяткуе на Каляды ужо паўгоду свайго існаваньня...

Паўгоду таму, калі я прыступіў да арганізацыі Саюзу Беларускае Моладзі, дык уся арганізацыя была толькі ідэяй, існавала толькі у думках і лятуценьнях малое кучкі ідэялістых — арганізатараў. Ніколі не забудуся на тыя хвалюючыя першыя крокі, ад якіх аддзяляе нас, праўда, яшчэ параўнальна кароткі час, але ужо гэтак шмат падзеяў, што гэныя пачаткі даўно засталіся далёка за намі. Арганізацыя выйшла са стадыі закладаньня і фармаваньня, яна знаходзіцца у стадыі хуткага росту, уздыму і моцы.

Тэмп разьвіцьця зьдзіўляюча шпаркі. І калі гэтае разьвіцьцё мае месца сяньня, у хвіліну вялікага напружаньня, у вапошні мамэнт перад разьвязкай, калі небясьпека найбольшая, а падзеі вымагаюць найбольш фанатычнае веры, сталёвых нэрваў і волатаўскае моцы, дык гэта сьветчыць, папершае, аб тым, што арганізацыя моладзі атрымала адпаведны і актуальны зьмест і базуецца на здаровых прынцыпах арганізацыі і кіраваньня, а, падругое, аб тым, што беларуская моладзь пазытыўна становіцца да таго новага, што нясе з сабой СБМ, а варожа і нэгатыўна да жыда-бальшавізму і камсамолу, што яна захавала сваё здаровае беларускае нутро і цяпер хоча паказаць сваё шчырае беларускае аблічча. СБМ улавіў імкненьні нашае моладзі і стаўся ейным рэвалюцыйным рухам за нацыянальны зьмест вольнага беларускага жыцьця і культуры, за далучэньне Беларусі, да арыйскага Захаду і за запраўдны, дапасаваны да сялянскага характару нашага краю сацыялізм, які павінен прыносіць дабрабыт ня жыдом, а працоўнаму Беларускаму народу...»

Шэф-праваднік абрысаваў далей працу і дасягненьні Саюзу Беларускае Моладзі у галіне арганізацыі, школеньня кіраўнікоў культурнае працы, фізычнага узгадаваньня і выдавецтва за першае паўгоду існаваньня СБМ.

«Але мы не закапаліся у драбніцах свайго штодзённага жыцьця. Мы, прадстаўнікі і актывістыя беларускае моладзі, маем шырокі даляглядаі і хочам мець свой голас у нашых агульнабеларускіх справах і у вялікіх гістарычных падзеях, якія адбываюцца вакол нас. Будучыня належыць нам і таму зусім справядлівым зьяўляецца нашае жаданьне прыймаць удзел у здабываньні і фармаваньні гэтае будучыні.

Саюз Беларускае Моладзі ад самага пачатку ясна паставіў сваю мэту, свае заданьні і свае дачыненьні да праблемаў сучаснасьці. Мы за Новую Беларусь, разам з Нямеччынай і супроць жыда-бальшавізму — вось наш закон, паводля якога мы жывём, працуем і змагаемся...

Цяпер мы маем кульмінацыйны пункт другое сьветнае вайны. Мы, беларусы, гэта адчуваем асабліва востра, бо усходні фронт зноў прысунуўся да нашых узьмежжаў. Да таго-ж завайстрыўся бандыцкі тэрор лясных валацугаў і розных дывэрсыйна-тэрарыстычных групаў. Усё гэта вельмі згусьціла атмасфэру на Беларусі, якую бальшавікі яшчэ затручваюць сваёй шаленай круцельскай прапагандай, што «вось-вось прыдуць бальшавікі і жорстка пакараюць усіх здраднікаў, якія дапамагалі немцам». Гэта агітацыя, якая вядзецца тонам вялікай упэўненасьці, разьлічаная на тое, каб зламаць нашую волю, дэнэрваваць нас і псыхалёгічна стэрарызаваць. Дык-жа цяпер з нашага боку найбольш ахвяраў і найвялікшыя цяжкасьці, якія толькі мы спатыкалі на нашым нацыянальным шляху. Тым больш гонар жыць і не апускаць галаву у гэткі гістарычны момант...

Бальшавікі перадчасна цешацца і дзеляць скуру незабітага мядзьведзя. Нам няма чаго асабліва хвалявацца. Праўда, покуль фронт стаіць блізка каля нас, покуль вайна ідзе на нашых землях, калі чуваць гукі гарматных стрэлаў, зразумела, мы ня можам аднасіцца да гэтага абыякава, бо мы вельмі добра знаем бальшавікоў і іхную лютую помсту, якую яны для нас шыкуюць. Але выратуе нас не перапалох, бязьдзейнасьць ці «перапросіны» бальшавікоў (яны і так нікому не даравалі-б), а актыўнае змаганьне.

Мы не скапітулюем, як не скапітулюе Нямеччына, ня зрадзім і не уцячэм з поля бою. Як пе ратрывалі усе дасюлешнія, так пе ратрываем далейшыя, ужо апошнія



**Акруговы Камісар у Слоніме Эрэн перад фронтам юнацкіх дружынаў.**

# ПАГОНЯ

Рухава

муз. М. Шчаглова




3\. У бязьмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі — гады,
Вы за кім у пагоню сьпяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

4\. Мо яны, Беларусь, панясьліся
За тваімі дзяцьмі уздагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі у палон?

5\. Беце у сэрцы іх, беце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай староньцы баліць...

6\. Маці родная, Маці-Краіна,
Ня усьцішыцца гэтакі боль!
Ты прабач, Ты прымі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь...

7\. Усё лятуць, і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўнай Крывіцкай Пагоні
Ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць!

**«Жыве Беларусь!»** Часапіс для кіраўнікоў моладзі. Выходзіць раз або два разы на месяц.

**Выдавец:** М. Ганько, Шэф Кіраўнічага Штабу Саюзу Беларускае Моладзі.

**Рэдакцыя:** Уладзімер Кушэль.

**Выдавецтва:** Прэсавае Выдавецтва, Менск, Тав. з абм. адк.

**Друкарня:** Менскае Выдавецкае і Друкарскае Таварыства з абм. адк.